Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem. Цана асобнага нум. 40 грошы.

# Беларуская Борць

Адрас Рэдакцыі
і адміністрацыі:
Вільня,
Каралеўская вул. 3—8.

Рэдакцыя адчынена
ў аўторкі і пятніцы
ад 10 да 14 гадз.

ПАДПІСНАЯ ПЛАТА:
на год . . . . . . . . 2 зл.,
на паўгоду . . . . . 1 „
Заграніцу — удвая даражэй.
Цана абвестак поводле ўмовы.

№ 5
1937 г.

## ЗЬМЕСТ:

Выдавецтва ветліва просіць усіх прысьпяшыць з урэгуляваньнем залеглых складак, бо несваечасная прысылка грошай пазбаўляе нас магчымасьці акуратна выдаваць часапіс.

Дзеля гэтага пры гэтым № разсылаем блянк разрахунковага пераказу, пры помачы якога грошы можна пераслаць дарма.

# Беларуская Борць

№ 5 ВЕРАСЕНЬ 1937 г. ГОД VI

## Трэба тольки хацець!

Кожны, хто прыглядаўся да нашага вясковага жыцьця, мог лёгка пераканацца, што наша селянства адзначаецца вялікай працавітасьцю, але жыве значна горш, чым іншыя народы, знаходзячыся ў аднолькавых, а часам і горшых прыродных і гаспадарчых варунках, нават тады, калі працуюць меньш, чым мы.

Шмат якія з прычынаў гэтага залежаць не ад нас. Такія як — агульна гаспадарчая коньюктура, вельмі слаба разьвітая прамысловасьць нашага краю, разьбежнасьць цэн паміж прадуктамі земляробства і прамысловасьці і некатарыя іншыя—гэта справа агульна-дзяржаўнай гаспадарчай палітыкі. Мы самі ў гэтых справах парадзіць ня можам.

Але ёсьць і прычыны, змаганьне з якімі ў значнай меры прыступна нам самім.

Да гэтых прычын належыць перадусім нашая цемната і зьвязаны з ёй нізкі ровень нашага жыцьця, нашае культуры, прымітыўны спосаб гаспадараваньня.

Навука і техніка ў апошнія часы зрабілі вялікі пераварот ува ўсіх галінах жыцьця. Ужываньне пары і электрычнасьці палягчылі працу чалавека. Вынахады ў галіне хэміі і іншых навук адчынілі перад чалавекам новыя гарызонты. Праўда часта гэтыя вынахады былі ськіраваныя не на карысьць чалавека, але на яго шкоду, але шмат асталося і такіх, якія прычыніліся і да паправы жыцьця чалавека.

Усе гэтыя досьледы і вынахады адбіліся і на спосабах вядзеньня земляробскае гаспадаркі.

Навука вывучыўшы тыя працэсы, якія адбываюцца ў расьліне і жывым арганізьме падчас іх росту, вывучыўшы працэсы адбываючыяся і ў глебе падчас росту расьліны, дала навуковыя падставы гэтых працэсаў і паказала тыя сродкі і спосабы, якімі гэтыя працэсы можна ўзмацаваць і прысьпяшыць.

Народы, якія выкарысталі гэтыя досьледы навукі палягчылі сваю працу, паднясьлі яе выдатнасьць і палепшылі свой быт.

У нас, трэба з сумам прызнацца, застасаваньне навуковых спосабаў гаспадараваньня ідзе вельмі слаба. Прычына гэтага крыецца перадусім у нашай цемнаце, у слабай падгатоўцы да ўспрыняцьця навукі.

Пачаткавая школа не дае дзецям патрэбнай падгатоўкі да ўспрыняцьця далейшай навукі.

Добра, калі школа гэтая навучае хоць тэхнікі чытаньня і пісаньня.

Яшчэ горш стаіць справа з навукай агульна-асьветнай і навукай фаховай — у данным выпадку — са школьніцтвам земляробскім. Нават тыя адзінкі, якім удалося падгатаваць сябе да гэтай навукі, ня могуць яе здабываць з прычыны недахопу мейсцаў у школе. У гэтым годзе, як падаюць газэты, шмат у якіх мяйсцох дзеці здаўшыя

экзамен у гімназіі ня былі прынятыя з прычыны недахопу вакансыяў. Так было і ў адзінай беларускай гімназіі ў Вільні (Беларускай філіі гімназіі імя Словацкага).

Стан школьніцтва земляробскага таксама ня ёсьць задавальняючы.

Паводле закону ад 9 ліпеня 1920 году аб народных земляробскіх школах, у кожным павеце павінна было паўстаць па 1 ніжэйшай мужчынскай і жаночай земляробскай школе, а ёсьць іх у нашым краі паводле Рочніка Гаспадарчага за 1937 г. толькі 23.

Вось у чым крыюцца прычыны нізкага роўня жыцьця нашага селянства. Але, калі ёсьць нядобра гэта ня значыць, што трэба пагадзіцца з існуючым станам рэчаў.

Не магчыма здабываць гэтак патрэбнай нам навукі праз школы, дык трэба вучыцца ў сябе ў хаце г. званым спосабам хатняга навучаньня, спосабам самаасьветы.

Ня будзем пісаць аб тым, як гэта трэба і можна рабіць — гэта справа спэцыялістаў.

Прычыны патрэбы пашырэньня спосабаў хатняга навучаньня мы адначасна прызнаем, што кожны з нас, хто толькі жадае дабра сваймy народу павінен у меру сваіх сіл і магчымасьцяў прычыніцца да гэтае справы.

Трэба толькі хацець!

*М. Манцэвіч.*




## Падгатоўка пчолаў да зімы

Медабраньне кончылася. Адначасна з падглядам пчолаў трэба ўжо рыхтаваць пчолы да зімы. У часе падгляду ўжо відаць, якія сем'і ў парадку, а якім сяго ці таго не хапае. Адбіраючы мёд, перадусім трэба зьвярнуць увагу, ці дастатачна пакідаецца мёду на зіму і на колькі рамках той ці іншы вульлей мае зімаваць.

Як колькасьць мёду на зіму, так і колькасьць рамак залежыць ад сілы сям'і. Сільнейшай сям'і трэба пакінуць 8—10 рамак, слабейшай 6—8 рамак. Пры тым трэба зазначыць, што на зіму лепш няхяй будзе свабаднейшае гняздо, як цеснае; у свабаднейшым гняздзе будзе лепшае паветра.

Далей пытаньне: колькі астаўляць мёду на зіму. Тут прыпомнім вядомую пчаляром засаду: ня скупіцца пчолам на зіму з мёдам. Калі больш аставім мёду, дык будзе паўней, што пчолы не памруць з голаду, а гаспадару ня будзе клопату з падкормліваньнем. Колькасьць мёду азначаецца на вока: сільнейшай сям'і астаўляецца 12—15 кілёграм (30—35 фунтаў), слабейшай 10-12 кілеграмоў (20—30 фунтаў).

Як-жа ўкладаць на зіму гнёздавыя рамкі з мёдам? Гняздо мае два канцы: з аднаго канца трэба даць паўнейшую рамку з мёдам, у наступнай можа быць найменш мёду, а чым далей, тым кожная рамка павінна мець больш мёду, так што апошняя рамка таксама будзе найпаўнейшая. Пры гэтым трэба ведаць, што першы канец

гнязда ў вульлёх лявіцкага будзе там, дзе лёткі, г. з. у канцы вульля. У варшаўскіх-жа вульлёх, у якіх лёткі збоку, другі канец будзе ад застаўной дошкі. А ў вульлёх Дадана, у якіх застаўныя дошкі з абодвух канцоў, – розніцы ў гэтых канцох ня будзе.

У гняздо лепш даваць рамкі з вузою ня сьвежаю бо на гэтакай вузе цяплей будзе зімаваць пчолам. Таксама, у сярэдзіну гнязда трэба ўстаўляць рамкі з запасам пяргі, г. з. пылку, які патрэбны будзе пчолам на корм дзецям перад аблётам.

*Я. Ш.*

---

## Што рабіць, калі пчолы не назьбіралі сабе мёду на зіму.

Часта бывае, што пчолы або ўсе не назьбіралі сабе мёду на зіму, або толькі некатарыя сем'і. Калі толькі некатарыя мала маюць мёду, то гэта лягчэй паправіць: узяў лішні мёд ад адных пчолаў і даў другім. Горш калі ўсе пчолы мала маюць мёду ці гэта будзе на большым пчальніку, ці ў таго, хто мае 1, 2 ці 3 вульлі. Часта непрактычныя пчаляры купляюць сьвежы мёд на рынку ды даюць яго сваім пчолам. У гэтакім выпадку небясьпечна, што можа заняսьціся якая заразьлівая хвароба. Тут трэба так зрабіць: або купіць мёду ў вядомага суседняга пчаляра, у якога пчолы не хварэюць на заразьлівыя хваробы, або падкормліваем цукровым сыропам, замяняючы адзін кіляграм мёду адным кіляграмам сухога цукру. Сыроп гатуецца так: на дзьве шклянкі цукру бярэцца адна шклянка вады, варыцца на вольным агні аж да закіпеньня. Як крыху астыне ўсыпаць расьцёртай на паршок цытрыновай кісьлі, адзін грам на адзін кіляграм цукру ды вымешаць. Цытрыновую кісьлю лепш купіць у аптэцы. Замест цытрыновай можна ўсыпаць саліцылавай кісьлі ў той самай прапорцыі.

*Вільпчол.*

---

## УСЕБАКОВА КАРЫСНЫ ЖЫВАПЛОТ

Пры пераходзе на хутары, калі прыходзіцца будавацца, закладаць сад і ставіць пчолы ў чыстым полі заўсёды паўстае пытаньне, чым абгарадзіцца, каб мець плот моцны, трывалы і танны Гэтым варункам найлепш адпавядаюць жываплоты, якія могуць быць розных гатункаў. Вельмі цікавым і сапраўды „абаронным“ зьяўляецца камбінаваны жываплот з вярбы і ажынаў. Робіцца ён так: кругом саду ці пчальніка робім рэгулёўку па 40 цм. шырыні і глыбіні і на так прыгатаваным загончыку затыкаем вярбовыя калкі ў 40-ка цэнтымэтровых адлегласьцях. Пасьля 2 гадоў галінкі, якія вырастуць, пераплятаем вясной паміж сабой так, як пляцецца каса. У наступным годзе новыя галінкі ізноў пасплятаць на 1/2 мэтра вышэй і паўтарыць гэта 3—4 разы, кожны год пераплятаючы на 1/2 мэтра вышэй, чым папярэдні раз. Гэтакім чынам атрымаем моцны ды трудна праходны плот, які кожны год трэба абрэзываць вясной з бакоў і з гары.

Пры гэтакім вярбовым плаце садзім ажыны (чорныя маліны) на 60 цм. куст ад куста. Моцна калючыя галіны ажынаў разложацца на плаце і зробяць яго абсалютна непраходным. Пры тым, трэба заўважыць, што ажыны *цьвітуць надзвычайна багата ў чэрвені і даюць пчолам ў працягу 20-30 дзён вельмі добры пажытак.* Ягады ажынаў пасьпяваюць у жніўні. Ягады гатунковых ажынаў вельмі смачныя і здаровыя ды надаюцца да вырабу віна, наліўкі і г. д.

— Ажыны можна садзіць ня толькі пры вышэй апісаным вярбовым плаце, можна іх сядзіць гэтак сама пры драцянай сетцы, або агарожы з калючага дроту. Ажыны ў кожным выпадку споўняць сваю ролю і дадуць карысьць. Ажыны ня маюць вялікіх вымаганьпяў, растуць добра ў кожнай зямлі нават на сухіх грунтах. Аднаго толькі ажыны вымагаюць, каб даць смашныя ягады — шмат сонца. Садзіць іх найлепш даволі рана ў восені, Дагляду ажыны вялікага ня вымагаюць, трэба толькі зараз пасьля збору ягад павырэзываць старыя, леташнія (на якіх былі ягады) галіны. Выразаныя галіны пайлепш спаліць, бо на іх могуць быць розныя шкоднікі. Ажыны могуць расьці на адным мейсцы 8 - 12 гадоў.

Шмат хто баіцца садзіць ажыны таму, што яны вельмі разрастаюцца і засьмечываюць зямлю, але практыка паказала, што яны гвалтоўна разрастаюцца толькі тады, калі маюць пакалечанае карэньне. Калі будзем хадзіць каля іх асьцярожна, то вялікага разрастаньня можам не баяцца.

*Л. В—ва.*

---

# Календар пчаляра на верасень і кастрычнік

*Верасень*: Абкрываць цёпла гнёзды.

Звузіць выляты аставіўшы праход на дзьве пчалы, каб гэтым забясьпечыцца ад нападу.

Абгледзіць стрэшкі вульлёў, каб не зацякалі. Закітаваць усе шчэлкі ў сьценках старых вульлёў.

Законьчыць складаньне гнёздаў на зіму.

Калі трэба падкарміць, то толькі цукрам, ніколі мёдам, бо пчолы яго ўжо не запячатуюць. Хто хавае пчол у зімоўкі павінен апошнія праветрыць і пракурыць серкай.

Сеяць і садзіць медадаі: сеяць мядовы асот і садзіць у гародчыку дэкарацыйныя: сінюху, зімовы мак, трывалы лубін.

*Кастрычнік.* Прыгатаўляць зімоўкі.

Пераносіць пчол у зімоўкі, як пачнуцца прымаразкі, сьпяшацца з гэтым ня трэба. У зімоўкі ставіць пасткі на мышэй, або класьці атруту.

Зімуючыя на дварэ пчолы забясьпечыць ад мышэй абкладаючы ножкі вульлёў ялаўцом. У сярэдзіну вульля на падушкі і пад рамкі палажыць мяты.

Садзіць усюды, дзе толькі можна медадайныя дрэвы і кусты; ліпы, белую акацыю, жоўтую акацыю, снягульку і г. д,






# Спарынец

(Claviceps purpurea) ражок, зуб—грыбок чужапас, які жыве на калосьсі жыта. Спарынец ужываны ў фармакалёгіі пад назовам Secacle cornutum зьяўляецца органам для пеpазімоўкі грыбка.

Даўжыня ражка 4—6 цм., таўсьціня каля 6 мілім. Колер ражка зьверху цёмна-філятовы, унутры ясна-філятовы. Размнажаецца пры помачы зярліц. Сьпелы ражок зваліваецца на зямлю, дзе ляжыць да вясны. Вясной выпушчае грыбкаватыя вырасткі з чарвоненькімі галоўкамі, унутры якіх поўна дробненькіх зярліц. У часе красаваньня жыта галоўкі дасьпяваюць, лопаюцца і выкідаюць з сябе зёрлы, якія пападаюць на калосье жыта, асядаюць на іх і выдаюць новыя зярліцы. Жамяра зьлізываючы жыдкі мёд (саладкавата-клейкая плынь, якую выдзяляе ў часе красаваньня жыта) разносіць зёрлы і гэтакім способам далей заражае жыта. На мейсцы зярнят збожжа коштам расьліны расьце ражок грыбка.

Спарынец мае ў сабе сільную атруту. Спажыцьцё занячышчанага спарынцом хлеба можа вызваць параненьне ў жанчын, а ў горшым выпадку нават атруцьцё. Дзеля гэтага кожны гаспадар мусіць змагацца з грыбком, ачышчаючы ад яго сваё збожжа. Выбіраючы спарынец з жыта будзем мець двайкую карысьць: першая — атрымаем чыстае, без атрутных дамешак, збожжа, другая — сабраныя ражкі можна заўсёды прадаць, бяручы 2—4 зл. за кілягрaм. Спарынец шырака ўжываецца ў акушэрскай практыцы.

Зьбіраць ражкі можна з жыта, як яно расьце і выбіраць з малочанага. Перахоўваць трэба ў сухім месцы ў шчыльна зачыненай пасудзіне, бо інакш нападаюць мушкі, падобныя да молі, якія сточуць на парашок, апрача гэтага ў вільготным месцы раскладаюцца лекарскія субстанцыі, пасьля чаго грыбок у пераломе мае бранзовы колер і да ўжытку не надаецца.

А. А.

---

# Капытнік як лек процiў алькагалізму.

Пасярод аграмаднага ліку зёлак памочных у розных хваробах знаходзім гэтак сама расьлінку, якая памагае чалавеку вясьці барацьбу з найбольшым ворагам чалавецтва—з алькагалізмам. Расьлінка гэтая добра ўсім знаная, *капытнік*—Asarum europeum, якая расьце ў лясох пераважна пад лягчынамі. Навучна яго ўласнасьці мала яшчэ дасьледжаныя, але ў народнай мэдыцыне ад старых часоў прызнаюць капытнік самым пэўным лякарствам процiў п'янства.

Карэньне капытніка, якое служыць у гэтым выпадку лекарствам

зьбіраюць рана ў восені або вясной.

Выкапанае карэньне трэба дакладна ачысьціць ад пяску і хутка высушыць у добра правеўным мейсцы. Перахоўваць забясьпечыўшы ад вільгаці.

Хочучы заставаць капытнік, як лекарства, прыгатаўляецца моцны адвар з дробна патоўчанага сушу, бяручы яго вялікую сталовую лыжку на дзьве шклянкі мяккой вады. Варыць трэба памалу, але бяз перарываў у працягу 20-ці мінут. Пасудзіну накрыць шчыльна.

Гатовы адвар перацадзіўшы зьліваем у бутэльку.

Прыступаючы да лячэньня алькаголіка (п'яніцы) дадаем адвар капытніку да гарэлкі ў прапорцыі адна сталовая лыжка адвару на адну шклянку гарэлкі.

Выпіўшы так прыпраўленую гарэлку алькаголік адчувае нуднасьці і нясмак у роце.

Калі гэтай самай гарэлкі даліваць па крысе ў страву і пырскаць ею адзежу і пасьцель, то сам пах гарэлкі выклікае нуднасьці і робіцца для алькаголіка нязносным.

Само сабой зразумела, што спробы лячэньня і прыгатаваньне сьродкаў павінны быць роблены бяз ведама пацыента.

---

## Хатняе лячэньне зёлкамі

Палын (Artemisia absynthium). Дзеля лекарскіх мэтаў зьбіраюць лісьцё і цьвітучыя вяршкі палыну, Большую лекарскую вартасьць мае палын, сабраны з сухіх гарыстых месц. У мэдыцыне ўжываецца ён з незапамятных часоў. Прыпісываюць яго пры благім апэтыце, разьвіцьці газаў у кішках, болі жывата і пры затрыманьні. Адвар палыну зьмяшаны з чосьнікам стасуюць у форме леватываў пры глістах. У нутро прымаюць гарбату, спірытусовую настойку, палыновую гарэлку, сьвежа выціснуты сок.

Палын узмацняе органы траўленьня, пабуджае апэтыт, папраўляе агульнае самапачуцьцё.

*А. А.*




# Як зьбіраць і перахоўваць яблыкі

Сёлетні ўраджай фруктаў страшэнна зьнізіў цану іх На віленскіх рынках можна купіць 1 пуд папяроўкі за злоты, а іншыя, горшыя сарты яблыкаў яшчэ таней. Такая нізкая цана на фрукты зьяўляецца рэзультатам вялікай колькасьці кіненай на рынак яблыкаў і ігруш, тых сартоў летніх, якіх перахоўваць нельга. Цяпер перад намі паўстае пытаньне, што рабіць, каб не пазбыцца за бязцэнак тых фруктаў, якія могуць ляжаць даўжэйшы час да зімы ці нават да

вясны, калі за іх можна будзе ўзяць лепшую цану.

Перадусім трэба ведаць, як зьняць яблыкі ці йгрушы з дрэва, каб іх не паабіваць ад чаго яны зараз-жа трацяць свой выгляд і хутка пачынаюць псавацца. У нас звычайна фрукты зьбіраюцца так: узьлезе нехта на дрэва і трасе яго пакуль фрукты не асыпяцца, а пасьля скідаюцца ў кошыкі і як каменьне зсыпаюцца ў кучы. Так сабраныя фрукты ня толькі перахоўваць нельга, але ўжо на другі, трэцьці дзень яны страцяць свой выгляд і ніякай цаны мець ня будуць. Вось прыклад. Адзін віленскі безработны, пазычыў крыху грошы і заарандаваў сад. Пасьпелі яблыкі і ён, як мне расказаў, *строс* гэтыя яблыкі, а яблыкі, кажа, яблыкі былі вялікія, белыя, салодкія. Натрос 70 пудоў, наняў 2 фурманкі па 5 злотых і раптам узяў за гэтыя яблыкі 25 злотых. Дзесяць злотых заплаціў за фурманкі, а сабе асталося 15. „Я й арэнды ня выбяру“—жаліўся бедны.

Фрукты трэба зьбіраць рукамі і то ня голымі, а ў рукавіцах ды асьцярожна складаць, каб яны не паабіваліся і зьбіраць у сухую пагоду. Есьць спэцыяльныя прылады да зьбіраньня яблыкаў, але я тут аб іх пісаць ня буду, бо наш сялянін ужываць іх ня будзе.

Так сабраныя фрукты, добра перахаваныя, будуць ляжаць, залежна ад сорту, аж да самай вясны.

Звычайна ў нас перахоўваюць зімовыя яблыкі і йгрушы ў скляпох на адкрытых паліцах. Спосаб гэты не практычны, бо фрукты ляжачыя на паліцах шмат трацяць вільгаці, моршчацца і гніюць. У Амэрыцы дзеля перахоўваньня фруктаў будуюць спэцыяльныя халадзільні. Зьнятыя з дрэваў фрукты зараз-жа сартуюць, пакуюць у адпаведнай вялічыні скрынкі ды ставяць іх у халадзільню. Тэмпэратура ў халадзільнях утрымліваецца блізка +3 +4 ц. Так перахаваныя яблыкі, бяз ніякай праверкі разсылаюць па крамах, і яшчэ ня было выпадку, каб так перахаваныя фрукты папсаваліся.

Нам да гэтага яшчэ далёка і я тут падам пару прасьцейшых спосабаў перахоўваньня, пры якім фрукты будуць доўга ляжаць і ня страцяць свайго натуральнаго колеру ні якасьці.

Перадусім для перахоўвываньня патрэбна памяшчэньне: ці чысты склеп пад хатай, ці вольны пакой у доме з печкай дзеля аграваньня ў часы сільных маразоў, ну і скрынкі ці проста чыстыя бочкі. Пасьля патрэбны матарыял да перакладаньня ці перасыпаньня фруктаў у скрынках ці бочках. Матэрыялам гэтым могуць быць торф, і мох. Торф павінен быць валакністы, дробны, сухі; бяз паху і без дамешкі зямлі. Торф земляністы для перахоўваньня не надаецца, бо фрукты набіраюць яго паху.

Мох дзеля перакладаньня ўжываюць лясны, зялёны. Дзеля гэтай мэты зьбіраюць, мох разрываюць яго на дробныя пасмачкі, прамываюць у бягучай вадзе і сушаць у правеўным месцы.

Рачны пясок, добра прамыты, чысты, дробны таксама зьяўляецца добрым матэрыялам дзеля перасыпаньня фруктаў. Пясок павінен быць сухі, без дамешкі зямлі ці гліны. Пакуюцца яблыкі так: у бочку ці скрынку сыпецца на дно пясок ці кладзецца мох або торф, пасьля рад яблыкаў, гэты рад засыпаецца пяском ці закладаецца торфам або мохам, залежна чым перасыпаецца ці перакладаецца другі рад і г. д.

Так перахаваныя яблыкі ці йгрушы ня страцяць, ні свайго колеру, ні сьвежасьці ні якасьці.

*А. Войцік.*

# Як зьбіраць, ачышчаць і сушыць насеньне дзікіх яблыкаў і йгруш

Зьбіраюцца дзікія яблыкі і йгружы вельмі проста. Тут ня трэба высцерагацца, як пры зборы фруктаў, а наадварот, чым яны больш абаб'юцца тым лепш—хутчэй згніюць. Дзікія яблыкі і йгрушы проста страсаюцца з дрэва.

Строспы з дрэва дзікія яблыкі і йгрушы зсыпаюцца на дварэ ў кучы паўмэтровай вышыні і штодзень паліваюцца халоднай вадой аж пакуль аканчальна ня згніюць.

Згніўшыя плады пераціраюцца на сіце такой гусьціні, каб праз яго праходзіла толькі мязга а зярняты аставаліся ў сіце.

Пераціраецца наступным спосасабам: згніўшыя плады кладуцца ў сіта, паліваюцца час ад часу вадой і труцца праз сіта рукамі, прычым пераціраць трэба ў дваіх, адзін будзе цёрці, а другі паліваць вадой.

Можна сырыя, толькі што зьнятыя з дрэва дзікія яблыкі і йгрушы перабіць у малатарні, адпаведна дзеля гэтага наладзіўшы малатарню. Робіцца гэта так. Падымаецца ў малатарні барабан так, каб плады добра йшлі ў яго, ставіцца побач бочка з вадой і малоціцца.

Расьцёрты такім спосабам плады адразу кідаюць у бочку з вадой і мяшаюцца.

Пры мяшаньні мязга ўсплывае на верх, а зярняты ападаюць на спод. Мязга зьбіраецца і ў бочку сыплецца новая партыя аж да тае пары, пакуль ня будзе з паўбочкі насеньня. Калі гэта бочка гатова ставім другую і г. д.

Пры малой колькасьці можна дзікія яблыкі і йгрушы ссыпаць у бочку і заліць варам, даць пастаяць дні два, тады перамяшаць у бочцы кіям і перацёрці на сіце.

Адлучаныя такім спосабам зярняты сушацца ў правеўным месцы. Сушыць найлепш на спэцыяльных сетках, але, калі іх няма, то можна рассыпаць тонкім пластом на посьцілках, падвешываць іх дзе небудзь на гарэ хаты, у пуні пад страхой і г. д.

Нельга сушыць у печы, бо можна зярняты падпаліць і яны страцяць сваю вартасьць.

Пры адлучаньні зярнят на сіце не адлучыцца луска ад гнёздаў, дзеля гэтага па высушэньні зарнят трэба іх павеяць.

Веяцца зярняты такім самым спосабам, як веіцца збожжа.

Ачышчаныя зярняты або зараз прадаць, або ссыпаць у палатняныя мяшкі і трымаць у сухім правеўным месцы.

Тут трэба адзначыць, што пры сушэньні зярнят і перахоўваньні трэба высьцерагацца мышэй, бо яны вельмі любяць зярняты, і могуць іх нам зьесьці. *А. Войцік.*

# Каляндар агародніка на верасень і кастрычнік

ВЕРАСЕНЬ.

*У садзе:* у палове месяца перакапаць зямлю пад дрэвамі і ягаднымі кустамі. Чыста пазьбіраць і закопываць або перасыпаць вапнай гнілыя яблыкі і йгрушкі; чарвівыя забіраць у хату і сушыць або варыць мармэляду. Пад дрэвамі яблынь і йгруш палажыць невялікія кучкі лісьця, дзе схаваюцца фруктовыя шкоднікі; у кастрычніку кучкі гэтыя заліць варам. Ачыш-



чаць дрэвы ад моху і лішаёў, у каторых хаваюцца шкоднікі. Маючы намер садзіць дрэвы, трэба ўжо цяпер капаць ямы, каб зямля праветрылася і зрабілася пухкай.

*У агародзе:* загоны, з якіх ужо варыва (напр. цыбуля) сабрана, ачышчаць ад пустазельля і перакопываць.

Прыгатаўляць варыўні і склепы дзеля перахаваньня варыва: праветрываць іх і пракурываць серкай. Рабіць запас чыстага пяску дзеля перасыпаньня варыва.

КАСТРЫЧНІК.

*У садзе*: Ачышчаныя дрэвы бяліць вапнай з глінай і кароўім навозам, пасьля абвязаць іх саламянымі перавяслямі намочанымі ў ліпкай смале; як настануць маразы перавяслы гэтыя зьнімаць і паліць разам з прыліпшымі шкоднікамі. Маладыя дрэўцы перед маразамі абвязаць жытняй саломай, каб не памерзьлі і ялаўцом, або яловымі лапкамі ад зайцаў. У кастрычніку зьбіраць зімовыя яблыкі і грушы Не сьпяшацца, чым даўжэй пастаяць на дрэве, тым будуць смашнейшыя і трывалейшыя.

*У агародзе*: Зьбіраць варыва: буракі, морхву і г. д. Хаваючы дакладна перабіраць, каб ня было гнілых, бо ад іх загніюцца і здаровыя. Угнойваць і перагорваць агароды. Перакладаць на новае месца („перарабляць“) кампосныя кучы.

# ГІГІЕНА і МЭДЫЦЫНА

## ПРА ГІГІЕНУ

Пачынаючы ад прадапошняга нумару „Бел. Борць“ уводзіць сталы новы аддзел *гігіену*, прысьвечаны справе чалавечага здароў'я.

*Гігіена* – гэта навука, якая нас вучыць як найлепей сьцерагчы сваё здароўе і жыцьцё ад розных шкодных дзейнікаў. Што сваё здароўе трэба даглядаць, — гэта рэч простая і кожнаму зразумелая. Кожнаму ведама, што каб чалавек быў здаровы, перадусім мусіць мець ён ад самага маленства адпаведную страву, цёплую, чыстую і сьветлую хату, адпаведны адпачынак, – адным словам мусіць быць сякі-такі *дабрабыт*. Дабрабыт-жа народу залежыць ад соцыяльнага палажэньня, ад гаспадарча-палітычных умоваў жыцьця. І таму справядлівы грамадзкі лад, даючы найбольш магчымы на даным гістарычным этапе дабрабыт, найлепей гарантуе добры стан здароўя шырокіх слаёў народу, а змаганьне за такі лад, гэта найлепшая *ў гістарычнай перспэктыве* дарога да падняцьця здароў'я мас.

Але змаганьне за зьмену ладу, за справядлівы падзел дабра, за дабрабыт данай грамадзкай клясы трывае гадамі і сотнямі гадоў, а чалавеку тымчасам прыходзіцца рупіцца пра сваё здароў'е цяпер-жа, у даную часіну і ў найгоршай нават нястачы і бядзе. Ды мала таго. Чалавек перапрацаваны, які недаядае, жыве ў сырой душной хаце, мусіць яшчэ пільней сачыць за сваім здароў'ем, мусіць уважней сьцерагчыся хваробы, – так частага гасьця недастатку, – чым чалавек

сыты, не перапрацаваны, каторага арганізм адпорны і ад многіх хваробаў добра бароніцца сам.

Дык хаця адзін з галоўных фундамэнтаў людзкога здароў'я гэта адпаведныя варункі жыцьця, якія якраз дае дабрабыт, — то ўсёжтакі вельмі важнымі для здароў'я зьяўляюцца і такія рэчы, як чысьціня, як дагляд цела, спосаб жыцьця, адпаведны дагляд і гадаваньне дзіцяці і іншыя. Гэта ўсё рэчы для здароў'я вельмі важныя, а з другой стараны не вымагаюць большых коштаў і звычайна даюцца лёгка праводзіць, свой дабрабыт мы не заўсёды патрапім направіць, але трымацца пэўных простых гігіенічных правілаў можым.

Належна шанаваць і даглядаць свой арганізм людзі навучыліся не адразу. Не так даўна яшчэ ў многіх царскіх і каралеўскіх палацах ды на дварох вяльможаў, побач з пышным багацтвам і роскашай панавалі бруд і вошы ня горш, як у бедных сялянскіх хатах. Але цяпер ужо ў высокакультурных народаў справа гэтая грунтоўна зьмянілася і ня толькі ў палацах. За хад Эўропы ўжо ў вялікай меры зразумеў гэтае важнае жыцьцёвае правіла, што лепей і танней *сьцерагчыся* хваробы, чым яе *лячыць*. Таму і ў нашым аддзеле гігіены, хаця будзем пісаць і аб першай помачы пры выпадках, і нават як самім лячыць некатарыя простыя хваробы, то ўсё-ж галоўны націск будзем класьці на рады, як *сьцерагчы* здароў'е, на *гігіену*. Калі прыходзіць ужо ў хату хвароба, дык тут звычайны чалавек мала можа памагчы — тут ужо патрэбны доктар, тымчасам даглядаць сябе і сваё здароў'е павінен і можа ўмець для сваей собскай карысьці кожны.

Трэба помніць, што толькі здаровы чалавек можа даць карысьць, як для сям'і, так і для свайго народу, а хваравіты, хворы ці калека для ўсіх і ўсюды будзе цяжарам, для ўсіх будзе прыносіць толькі страты. Толькі здаровы чалавек патрапіць належна пастаяць за свае правы, правы сваей грамады і народу.

Дык вось чаму трэба ведаць, як высьцерагацца гэтага лішняга ворага народу — *хваробы* і вучыцца гігіены свайго цела, і вось чаму ў „Белар. Борці“ паўстаў пра гэта адумысловы аддзел.

*Вітаўт Тумаш.*

# Вэтэрынарыя

## ХВАРОБЫ КУРЭЙ

### МЫТ АБО ЛЯКСА

У восені, гэтак сама, як і вясной часта куры масава пачынаюць хварэць, а бяз адпаведнага дагляду гінуць. Найбольш распаўсюджанай хваробай зьяўляецца *мыт*, або *лякса*, якая апаноўвывае як старых курэй, так і маладых куранят. Прычынай мыту можа быць з аднаго боку прастуда органаў траўленьня (напр. падчас доўгатрывалых дажджоў), з другога вялікая колькасьць зьедзяных чарвякоў, майскіх хрушчоў і сьвежых, нясьпелых зярнят.

Пазнаецца гэтая хвароба па адходах, якія пакрываюцца жоўтай сьлізьзю. Сьлізь гэтая прылiпае да пер'я і пэцкае іх. Птушка робіцца сумнай і мляўкай ды ня мае апэтыту.

Захварэўшыя птушкі найлепш адразу аддзяліць ад здаровых і пачаць старанна лячыць. Есьці даваць толькі вараны рыж, а піць адцэджаную ваду з гэтага самага рыжу. Можна даваць яшчэ звараную дакладна ячменную кашу. Ніякіх мяшанак ні ячменю не даваць. Апрача рыжавай вады даваць піць перагатаваную ваду з дадаткам серкавага жалеза — Ferri sulfuricum — па 4 грамы на літр вады. Купляецца ў аптэцы, каштуе 1 дэка (10 грамаў) 15 грошы.

Серкавае жалеза добра даваць ня толькі хворым птушкам, але і здаровым, дзеля дэзынфэкцыі органаў страўленьня, апрача таго дзеіць яно ўзмацняюча на цэлы арганізм, асабліва маладых куранят.

Часам мыт прыймае больш вострыя формы, пераходзячы ў старых курэй у *белы мыт*, а ў куранат у *„дыярыю“*. Адходы тады робяцца зусім рэдкія, ды белыя і ліпкія, так што зусім зьлепліваюць пух каля задняга праходу; з часам нарастае там цэлая груда і праход апухае і раніцца. Каб да гэтага не дапусьціць, трэба пух на заднім праходзе абмываць цёплай вадой і мазаць сьвежым нясоленым маслам або здорам. Лячэньне і дыета такія самыя, як пры звычайным мыце, толькі, калі хвароба зацягіваецца, то добра даваць піць хворым птушкам адвар дубовай кары, які прыгатаўляем так: 12 грамаў дубовай кары заліваецца шклянкай вады і варыцца аж пакуль не астанецца $^1/_4$ часьць адвару. Перацадзіўшы дадаецца 3 лыжкі гліцэрыны і пасьля 10 капляў гэтай сумесі даецца на лыжку халоднай, перагатаванай вады і ставіцца хворым птушкам піць. Добра час ад часу даваць па крысе канаплянага семя. Трымаць хворыя птушкі трэба ў цёплым мейсцы на чыстай, сухой падсьцілцы.

*Л. С.*

# ХВАРОБА ВЫМЯ Ў КАРОВЫ

Пачынаецца ад таго, што заднія дойкі цяжэй даюць, як пярэднія і дзеля гэтага карова чыста ня выдойваецца. Кожная капля малака, астаўшаяся ў вымі каровы, пераграецца, ператвараецца ў крупкі, сьпекі. У пару разоў ня выдаенай каровы гэтых сьпекаў набярэцца шмат, яны зьліпаюцца і ад гэтага робіцца нарыў. Нарыў гэты сялянне, дзякуючы сваей нясьведамасьці, ня правільна лечаць і гэтым толькі пагоршываюць хваробу.

Каб не псаваць каровы, трэба прытрымліваца наступнага: 1) Чыста выдойваць карову, 2) даіць ня менш як тры разы ў дзень, перад даеньнем мыць рукі і не мачаць пальцаў у малако, 4) калі ўжо вымя хворае, мыць перад даеньнем цёплай вадой, а па даеньні вымазаць нясоленым салам і добра расьцёрці, 5) рабіць цёплыя кампрэсы з намочанай у цёплай вадзе ваты, пасьля налажыць цыратай, ды абвязаць ваўнянай хусткай, 6) хворым каровам даваць ня шмат, але пажыўнай пашы і як найменш рэдкага корму, 7) можна даваць хворай карове ялаўцовыя ягады 15—20 грамаў на дзень. Вельмі часта бываюць раны на дойках. Трэба мыць дойкі цёплай вадой з мылам і памазаць ёдам. Перад даеньнем мыць рукі з мылам, бо калі даіць ня чыстымі рукамі, то праз усё лета дойкі ў каровы будуць хворыя.

# Жаноцкая старонка

## Роля жанчыны ў барацьбе з алькагалізмам

У днях 12 — 17-га г. месяца ў Варшаве адбываецца *процiалькагольны кангрэс.*

Аграмадныя маральныя і матэрыяльныя шкоды, якія прыносіць п'янства, змушаюць сьведамае грамадзянства вясьці з ім пляновую і сыстэматычную барацьбу.

Нажаль ня ўсе разумеюць шкоднасьць алькаголю; не здаюць сабе справы з таго, што гэта ня толькі прапітыя грошы, ня толькі нэндза матэрыяльная зьяўляецца рэзультатам п'янства, але і неаблічаныя шкоды маральныя: п'яніца трациць людзкія рысы, робіцца падобны да бязмыснага і злота зьвяра, трациць уласнае здароўе і перадае розныя цяжкія хваробы сваім дзецям. Аграмадны лік варыятаў — гэта алькаголікі, аграмадны лік дзяцей неразьвітых умыслова г. зв. ідыётаў, гэта дзеці алькаголікаў (п'яніцаў).

А сколькі нешчасьлівых выпадкаў выклікае п'янства! Там муж п'яны пабіў, або і забіў жонку, пакалечыў дзяцей; там сын п'яны забіў матку, там ізноў п'яныя на вечарыне парэзаліся нажамі і г. д. і г. д. Пералічыць трудна і страшна.

Хто лепш за жанчыну ведае ўсе жудасьці гэтага. Жанчыны перад усім павінны стаць у рады барацьбітоў з п'янствам. Дзеля карысьці ўласнай, сваіх мужоў, братоў і дзяцей, дзеля карысьці ўсяго народу і бацькаўшчыны.

Барацьбу трэба пачаць ад самых падставаў: ад сябе і дзяцей.

Жанчына павінна пастанавіць сабе, што ня возьме ў рот гарэлкі, піва ці іншага алькагольнага напітку; яна павінна добрым словам уплываць на сваіх блізкіх, каб выракліся гарэлкі. а *перадусім не даваць яе каштаваць дзецям.*

Неразумныя бацькі цешацца, калі іх маленячкі сынок „п'е як стары". Не разумеюць таго, што самі дабравольна даюць яму ў рукі атруту.

Ня толькі ня можна даваць дзецям каштаваць гарэлку, але наадварот трэба давясьці да таго, каб дзеці яе ніколі ў хаце ня бачылі, каб ад малога разумелі, што гарэлка, гэта *ворал дабрабыту, здароўя і згоды.*

Гарэлку трэба выкінуць з хаты ня толькі ў буднія дні, але і ў урачыстасьці (сьвяты, хрысьціны, вясельлі) бяз яе трэба абыйсьціся.

Разумеецца гасьцей трэба прыняць, але і па гэта можна знайсьці раду: завясьці ўжываньне гарбаты ды кавы, а таксама прыгатаўляць розныя квасы з хлеба, сьвежых ды сушаных фруктаў, мёду і г. д.

Усе гэтыя напіткі смачныя, здаровыя і некаштоўныя.

Грошы заашчаджанныя такім спосабам лепш ужыць на лепшую сытнейшую ежу, на палепшаньне гаспадаркі ды на асьвету сям'і.

Калі жанчына патрапіць наладзіць у хаце парадак жыцьця так, што і муж і дарослыя сыны ў прыемнасьці будуць правадзіць вечары асабліва зімовыя ў гуртку сваей сям'і, то ня будзе іх цягнуць у карчму, да гарэлкі і што за тым і дзе да бояк

Роля жанчыны ў барацьбе з аль-



кагалізмам аграмадная. Трэба толькі, каб жанчыны шчыра за яе ўзяліся і то ўсе, як адна, а тады можна мець пэўнасьць, што барацьба дасьць вынікі памысныя і здолеем перамагчы ворага, які так шмат нешчасьця прыносіць нашаму народу.

*Л. Войцікава.*

# Куток наймалодшых

## Ліст птушак да дзяцей

Дарагія дзеткі.

Лётаючы па палёх і каля Вашых сялібаў, мы птушкі бачым, як людзі зьбіраюць з поля бульбу, збожжа, як капаюць варыва, як косяць, зносяць траву, як зносяць з лесу грыбы і розныя ягады прыгатаўляючы сабе і сваей жывёле запасы на зіму.

Адчуваем ужо першае дыханьне восені і зімы, ды страх сьціскае нашыя маленькія сэрцы: як мы правядзем бязлітасную для нас зіму. Што будзем есьці, калі сьнег засыпе зямлю і дрэвы і кусты... Чым пражывем і ці шмат нас дачакае вясны, цёплага сонейка і вясёлага шчасьлівага летняга часу.

— Мы ня маем моцных трывалых хатаў, ня маем камораў на запасы, ды і нашыя клюнкі і лапкі ня здолелі іх назьбіраць.

Гразіць нам голад і сьмерць...

Ня хочам хваліцца, але па справядлівасьці мусім прыпомніць, што *мы, птушкі баронім Вашы палі, сады і лясы ад міліёнаў маленкіх але страшных ворагаў, ад дробнай, шкоднай жамяры, якая маглабы, зьнішчыць усю расьліннасьць, каб мы яе не баранілі.*

Мы памагаем Вам, памажыце-ж і Вы нам у цяжкую для нас пару.

Дарослыя людзі робяць запасы для себя, сваіх сем'яў і жывёлы, Вы, дзеткі, рабіце запасы для нас птушак, Вашых шчырых прыяцеляў.

Назьбірайце насеньня асоту, які так любяць шчыглікі, маку дзікага — відуку, ягадаў ялаўцу, белага бобу (бузіны), рабіны; астаўце для нас па жмэньцы сланэчнікаў, зьбярыце насеньня дзікага асацьцу, ды іншых польных расьлінаў.

Як наступіць зіма і голад, страшны голад загляне нам у вочы, мы ізноў напішам Вам ліст, раскажам, якія нам найлепш падабаюцца сталоўкі і як іх прыгатаваць.

Думаем, што Вы, дзеткі, маеце добрыя сэрцы, не пашкадуеце крыху часу і ў Вашых хатках знойдуцца ў хуткім часе торбачкі з зярнятамі і пучкі ягад прыгатаваныя для нас, а мы ў падзяку, яшчэ пільней, яшчэ ахватней будзем нішчыць шкоднікаў, а залажыўшы гнёзды ў Вашых садзіках, вясёлай песьняй напоўнім Вашыя сялібы.

Ад імяні ўсіх тутэйшых птушак, шчырых Вашых прыяцеляў

*Сіняк, Шчыглік, Верабей і Стрынатка.*

# Спрэчка ў гародзе*).

Калыхнуўся дмухавец на даўгой ножцы ды пусьціў па ветры цэлую сотню семак з парасонікамі. Падхапіў іх вецер, перанёс цераз плот за гарод, і палі семкі далёка на сенажаці.

Загалганілі гародныя жыхары.

— Вось дык штука! — крычаць.

Нават дрэвы зьдзівіліся, што невялічкая кветка ды іх перафарсіла.

Зьнямела гародніна са зьдзіўленьня. Стаяць усе, разявіўшы раты, і ўдалеч глядзяць. Раптам бачаць, па полю штось шэрае, калматае з усяго духу прэцца, на ўзгорках падскаквае ды лемантуе:

— Пачакайце, браткі, я зараз! Усю губэрню схадзіў. Я--трава такая. Перакаці-поле называюся. Вы сваё насеньне па ветры пускаеце, а самі скрануцца з месца ня можаце. А я вось сам па полі качаюся. Вось як спрытна! Скок-скок—ды усё па ветры!

Аж здурнелі дрэвы, кусты і гародніна ад такога нябачанага дзіва і па справядлівасьці хацелі назваць перакаці-поле самай спрытнай ды хітрай травой.

Зашмакаў тут хтось з зямлі старэчым голасам:

— Мы-ж таксама ўмеем пускаць па ветры. Завуць нас порхаўкамі. Вось мы зараз напнемся!

Засьмяялася перакаці-поле:

— Гэта вы? Ды вас ад зямлі ня відаць!

— Дзе вам! - закрычалі дрэвы, кусты і гародніна—Дзе вам, пузыром такім!

У гэты час падзьмуў вецер. Пакнулі разам штук з дваццаць порхавак пузыроў, і паляцела з іх цэлая хмара бурых зароднікаў, як дым з фабрыкі, ды проста на гарод.

Засыпалі порхаўкі вочы гародніне.

А дрэвы і кусты парасьперхаліся ды разкашляліся на ўсе галасы.

Так ніхто і ня бачыў—ці далёка зароднікі паляцелі.

— Ну, і чортова табака! — разззлавалася хвоя, выціраючы смолкія сьлёзы.

— Вось тэбе і маленькі пузыр! Здорава па ветры пускае! — праскрыпела старая елка. — Давайма, браткі, лепш справай займацца ды не спрачацца дарма.

---

*) Гл. № 2—3 „Бел. Борці".

# Беларуская хроніка

## З ВЫДАВЕЦКАЙ НІВЫ

Журавінавы цьвет—другі том паэзіі *Максіма Танка* Выданьне Ф. Стэцкевіча і Р. Шырмы 80 стар. друку. Цана 1 зл. 50 гр. бяз перасылкі.

З селянскіх ніў, зборнік *Міхася Васілька* Выд. Р. Шырмы. Цана 50 гр.

Нарач паэма *М. Танка* Выд. Калосься Стар. 100. Цана 1 зл.

Летапіс № 8 за ліпень і № 9 за жнівень.

Снапок—дзіцячы часапіс. № 4 за жнівень і № 5 за верасень.

Шлях моладзі ілюстраваны часапіс беларускай моладзі пачынаючы ад верасьня ператварыўся з месячніка ў двутыднёвік. Падпісная цана старая—2 зл. 50 гр. у год. Вітаем!

Беларускія календары. Адрыўны календар на 1938 г. ужо

выйшаў з друку. Цана аднаго экзэмпляра 30 гр. Хто купляе больш мае вялікую зьніжку. У хуткім часе выйдзе *Беларускі Сялянскі Календар* (кніжка) на 1938 г.

## КАНФІСКАТЫ

7 верасьня сканфіскаваны новы зборнік вершаў *М. Машары „З пад стрэх саламяных“*.

У жніўні сканфіскавана: Самапомач № 12 за арт. „Абое рабое“ (справы коопэрацыі) і „Шлях моладзі“ № 8 за арт. „З блуднага кола польска-беларускіх адносінаў.

Суд над М. Танкам. 9-го верасьня ў Віленскім Акружным Судзе адбыўся суд над паэтам М. Танкам і гр. В. Труцькам у зьвязку з канфіскатай зборніка вершаў М. Танка *„На этапах“*, выданага гр. Труцкам. Абодвых абвінавачаных суд апраўдаў.

Запіскі Беларускага Навуковага Т-ва ў Вільні. Як падае „Шлях Моладзі“ пад гэтакім назовам Бел. Навук. Т-ва мае намер выдаваць новы навуковы часапіс, у якім будуць друкавацца працы сяброў Т-ва.

Беларускі Нацыянальны Камітэт у Вільні 16 жніўня злажыў Ураду мэмарыял у справе адчыненьня ў Вільні беларускага ліцэю. У сёлетнім годзе беларускі ліцэй аднак не адчынены ў той час як іншыя меншасьці ліцэі атрымалі.

## У БЕЛАРУСКАЙ ГІМНАЗІІ

Сёлета ў першую клясу адзінай беларускай гімназіі (беларуская філія гімназіі імя Ю. Словацкага ў Вільні) быў вялікі наплыў кандыдатаў. Вясной здала экзамін 30 дзяўчат і хлапцоў, а на астаўшыяся 10 вакансіяў здавала экзаміны перад пачаткам школьнага году аж 50 кандыдатаў. Шмат дзяцей, якія здалі ўступны экзамен, ня былі прыняты і вярнуліся на вёску. Раўналежнай клясы не адчынілі, хоць патрэбны камплет для яе быў.

## ПОМАЧ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

Пры Беларускім Крэд. Коопэр (Коопэр. Банк) у Вільні існуе Стыпэнд. фонд помачы беларускай вучнёўскай моладзі, з якога ў сваім часе выдаваліся дапамогі вучням сярэдніх школ і студэнтам. Апошнія пару гадоў з прычыны адсутнасьці ўплываў на гэтую мэту дапамогі ня былі выдаваныя. У бягучым школьным годзе ўсё будзе залежыць ад таго, як наша грамадзянства аднясецца да гэтае справы.

Заклікаем усіх нашых чытачоў падтрымаць стыпэнд. фонд сваімі ахвярамі, якія трэба высылаць на адрас „Białoruska Spółdzielnia Kredytowa Wilno, ul. Królewska 3—8.

## ЗВАЛЬНЕНЬНЕ ВУЧЫЦЯЛЁЎ

З пачаткам новага школьнага году ў Віл. Белар. Гімназіі звольнены вучыцялі беларускае мовы: бел. паэт Хведар Ільяшэвіч і гр. А. Лекант-Сакалова, якая працавала там ад аснаваньня гімназіі. Беларускую мову ў гімназіі будзе выкладаць гр. Кавалевіч, вучыцель б. віл. польскіх вучыцельскіх сэмінарыяў. Звольнены таксама вучыцель фізыкі і хіміі П. Шчасны.

## З ЖЫЦЬЦЯ БЕЛ. КРЭД. КООП.

Даведываемся што Бел. Крэд. Коопэр. (б. Банк) распачаў праз свайго адваката сьцягіваньне даўгоў ад нясуменных даўжнікоў. У адносінах да тых, што ня згодзяцца на пісьмо адваката ўрэгуляваць справу залеглых %, будуць прынятыя самыя крайнія меры, аж да вызначэньня ліцытацыі. Кожны, хто мае доўг у Банку ўва ўласных інтарэсах павінен урэгуляваць справу як найхутчэй, каб не наражацца на новыя кошты.

## UBEZPIECZALNIA SPOŁECZNA

Был. Каса Хворых пацягнула Бел. Крэд. Кропэр. да адказнасьці за неаплату складак. Прычынаю

таго, што Каапэр. не плаціў акуратна гэтых складак было тое, што, у зьвязку з канвэрсыйнай акцыяй і спыненьнем да 1 студня 1937 г. сьцягіваньня даўгоў ад земляробаў праз коморнікаў, ён ня меў на гэта грошаў. Ня гледзячы на цяжкі стан коопэр. у меры магчымасьці па крыху плаціў, але гэта Убэзпеч. не задаволіла. У бягучым годзе Коопэр. аддаў Убэзпечальні ўсю конвэрсыйную дапамогу ад Акцэптацыйнага Банку, аднак і гэта не памагло і дырэктар яе адмовіўся адклікаць справу з суда, хоць пазасталося доўгу вельмі мала і гэты мае быць аплачаны з Акцэптацыйнага Банку.

Найцікавейшым аднак зьяўляецца тое, што да карнай адказнасьці пацягнута не ўправа Коопэратыву, але толькі яго працаўніка (касірка), якая як па закону, так і статуту не зьяўляецца і ня можа быць асобай адказнай за коопэратыў.

Цікавая аднак практыка убэзпечальні.

# З усяго сьвету

## У ПОЛЬШЧЫ.

Апошнімі часамі польскія газэты загаварылі аб зьмене Ураду, Ніхто аднак нічога дакладнага ня ведае. „Гонец Варшаўскі“ перадае толькі чуткі аб тым, што магчыма стварэньне ўраду мін. Панятоўскага. Па гэтых чутках сучасны прэм'ер ген. Славой-Складкоўскі застаўся-б Міністрам Унутраных Справаў.

——

Адказныя прадстаўнікі O. Z. W. высунулі на парадак дня справу зьмены выбарнага закону і новых выбараў. Газэты ажыўлена абгаварваюць гэтыя пытаньні і робяць здагадкі ў справе тэрміну выбараў.

——

Апошнімі днямі звольнена з паісадаў 3 ваяводаў, 1 віцэ-ваяводу і 17 старастаў. Паміж іншым звольнены беластоцкі ваявода С. Кірцікліс, а на яго мейсца назначаны Гэнрык Асташэўскі. Палескі ваявода дэ-Трамэкур перанесяны ў Люблін, а ў Берасьць назначаны зноў б. ваявода паўк. В. Костэк-Бернацкі.

——

У Варшаве адчыніўся Міжнародны Кангрэс па барацьбе з алькалізмам. На з'езд прыбыла каля 500 дэлегатаў са ўсіх канцоў сьвету.

## ЗА ГРАНІЦАЙ.

### На Далёкім Усходзе.

Пагранічны японска-кітайскі канфлікт ператварыўся ў сапраўдную вайну з многімі тысячамі забітых і раненых з абодвух старон.

Японцы думалі, што яны лёгка справяцца з Кітаем, аднак спаткалі моцны адпор і зараз перакідваюць у Кітай усё новыя і новыя сілы.

Вайна ідзе на трох асобных фронтах.

На паўночным фронце японцам удалося заняць Калчан і ўступіць у правінцыю Шансі.

Каля Пекіна бы спыніліся. Японцы маюць тут значную тэхнічную перавагу. Кітайцы перавышаюць колькасьцю войска.

Трэцьці фронт — гэта Шанхайскі, дзе вайна носіць характар пазыцыйнай вайны.

Наагул вайна прымае зацяжны характар, што пагражае японскім фінансам. Ужо зараз патрабавалася на вайну каля 3 мільярдаў ен, у той час, як увесь буджэт Японіі не перавышае 2 мільярдаў, а ў тым ліку 1 мільярд выдаткаў ваенных.

### У ГІШПАНІІ

Апошнімі часамі зарысавалася перамога на Мюране паўстанцаў, якія занялі некатарыя гарады, на паўночным фронце.

Новым у гэтай справе зьявілася адкрытае прызнаньне Італіяй свайго ўдзелу ў Гішпанскай вайне, што выклікала непакой Францыі і Англіі.

## У МІЖЗЕМНЫМ МОРЫ

У міжземныи моры падводная лодка, ня знанай дзяржаўнай прыналежнасьці, патапіла некальі гандлёвых караблёў, розных дзяржаваў. З ініцыятывы Францыі і Англіі ў Ніане (Швайцарыя) скліканa міжнародная канфэрэнцыя дзеля абгаварваньня справы бясьпечнасьці плаваньня ў Міжземным моры. Італія і Нямеччына адмовіліся ўзяць удзел у канфэрэнцыі

Зроблены адпаведныя пастановы аб абароне плаваючых караблёў.

Францыя і Англія даручылі гэтую справу сваім эскадрам. Італія ў апошнюю хвіліну згаджаецца прыняць удзел у кантраляваньні міжземнага мора пад варункам, што ёй будуць прызнаны аднолькавыя правы.

——

Памер першы Прэзыдэнт Чэхаславацкай Рэспублікі Т. Масарык.

# Пытаньні і адказы

ПЫТАНЬНЕ: Ці сапраўды квашаная паша „Кішонка" такая пажыўная і як яе правільна прыгатаваць?

АДКАЗ. Квашаная паша г. зв. сілёс гэта тая самая зялёная паша, толькі забясьпечаная ад гніцьця. Добры сілёс жывёла есьць вельмі ахвотна, што ўжо сьведчыць аб яе пажыўнасьці. Паша гэтая здаровая і ад яе прыбывае малака.

Прыгатаўленьне сілёсу нічым амаль ня розьніцца ад квашэньня капусты.

Квасіцца паша ў ямах, вылажаных каменьнем на цыманце, або бэтанаваных. У грунце глiністым, не прапускаючым вады можна капаць ямы з пахіляными крыху бакамі, Залежна ад колькасьці пашы яма ў верхней сваёй часьці можа мець 2—3 мэтры шырыні і натрэбнай даўжыні. Глыбіня ад 75 цм. да 1 мэтра. Куты ямы робяцца закругляныя.

Да квашэньня надаюцца ўсе расьліны, абы толькі чыстыя і здаровыя. Ужываюцца адпадкі ад агародніны, а таксамк спэцыяльна гадаваныя пашы, як: кармовы сланэчнік, конскі зуб, кукуруза, кармовая капуста і г. д.

Паша да квашэньня мусіць быць зусім чыстай, г. зн. бяз пяску і балота, а таксама ня мокрая, г. зн. зьбірана бяз расы і не пасьля дажджоў. Пры ўтоптываньні боты трэба старанна выцiраць, каб не панясьці гразьзі. Прыступаючы да квашэньня на дно ямы добра даць пласт жытняй або ячменнай мяккіны. Пашу класьці тонкімі пластамі ня грубей, як на 20 цм. і кожны пласт дакладна ўтаптаць. Чым мацней утаптаць, тым больш пэўнасьці, што работа ўдасцца. Добра на кожны пласт дадаць шэрай кармовай солі, лічучы па 20 дэка солі на кожныя 100 кіляграмаў пашы.

Напоўніўшы яму, укладаюцца пласты пашы далей, робячы кучу на 1 мэтр высокую з пахілымі бакамі. Скончыўшы класьці пашу бакі кучы абсыпаем зямлёй, а на верх кучы даем пласт зямлі ня меншы, як на 70 цм. Паша квасіцца каля 10 тыдняў; пасьля гэтага часу можна яе ўжо даваць жывеле.

Добры сілёс мае прыемны пах і кіславаты смак і можа перахоўвывацца нават пару гадоў.

# УСЯЧЫНА

15 жніўня с. г. у Вялейцы адбыўся зьезд прадуцэнтаў кашыкарскай лазы, на якім пастаноўлена сарганізаваць дзьве каапэратывы: прадуцэнтаў лазы і каапэратыву дзеля пераробкі яе. Дзеля таго, што прадуцэнты зьяўляюцца галоўнай падставай кашыкарскага промыслу ў першую чаргу мае паўстаць каопэпатыў прадуцэнтаў, ў бліжэйшым часе каапэратыў дзеля пераробкі.

Тут гожа адзначыць, што плянтацыі кашыкарскай лазы звольнены ад прамысловага падатку абежнікам Міністэрства Скарбу з 30 чэрвеня с. г. Ведама важна гэта толькі тады, калі плянтатары лаза гаспадаркай ня маюць гандлёвых складаў ці крамаў. Ня плаціцца падатку нават тады, калі лаза праходзіць першую пераробку, беліцца.

# Паштовая скрынка

Гр. *Турчэніку Уладзімеру.* „Бал. Борць“ Вам пасылаем і чакаем складкі. Узор на цёрліцу вышлем па атрыманьні 25 грашовага значка на перасылку. Што тычыцца падручніка кравецкага, то ёсьць толькі ў польскай мове: „Podręcznik nowoczesnego kroju. Kompletna nauka ubrań cywilnych, sportowych, mundurów wojskowych, z objaśnieniami i tabelą różnych miar. Nauka modnego wyrobu i przymiarki“. Кніжка гэтая з шматлікі малюнкамі. Каштуе з перасылкай 12 злотых і 75 гр.

Грам. *М. Пракопчыку.* Ад Вас складка ў суме 2 злот. атрымана 5 красавіка.

Гр. *Лісоўскай.* Дзякуем за здабываньне падпішчыкаў; адрасы паправім. Насеньне *суданскай травы* будзе вясной (цяпер распрададзена) па 1.50 да 2 зл. за кіляграм.

Для нашага краю надаецца *соя*, г. зв. Віленская. Каштуе яна 2 зл. за 1 кл. Вясной можа будзе танейі. Падчас зімы варта абдумаць якія садзіць і сеяць кармовыя расьліны, калі ў Вас такі недахоп пашы. Падымаем гэта пытаньне ў Борці.

Варта было-б Вам завясьці жывакосьнік. Дае 6–7 пакосаў за лета. Асабліва надаецца на пашу для кароў і сьвіней. Садзіцца карэньчыкамі ў восені або вясной. 100 шт. карэньчыкаў каштуе 1 зл. 50 гр. Аб сыропе з буракоў напішам другі раз. Страшэнны недахоп мейсца. У справе насеньня атрымаеце пісульку.

Гр. *Ніканору Кішко.* Насеньне дзікіх яблыкаў і йгруш зьбірайце сколькі магчыма. Закупім кожную колькасьць. У гэтым нумары падаем спосабы ачышчаньня і прыгатаваньня зярнят, зьвярніце на гэты артыкул увагу.

Плацім па 6 злот. за 1 кл. насеньня, як яблыкаў, так і грушак.

Мусім толькі дадаць, што, калі збор зярнят будзе в. вялікі, больш чым краёвае запатрабаваньне, то прыдзецца лішнія запасы экспартаваць за граніцу і тады цана можа панізіцца.

Але хто са зборам і даставай пасьпяшыць, той выйграе і вышэй азначаную цану атрымае.

Насеньне шліце на адрас рэдакцыі „Бел. Борці“.

Апрача гэтага адказу пасылаем Вам пісульку.

Рэдагуе Рэдакцыйная калегія: Л. Войцікава, М. Манцэвіч, М. Караленка, А. Войцік.
Адказны Рэдактар і Выдавец: Л. ВОЙЦІКАВА.
Друк Вытворча-Гандлёвай Каапэратывы. Вільня, Троцкая вул. 7.